● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

7 лютага 1998 г. субота, № 29 (23380)



# ЗВЯЗДА

# Чалавек павінен разлічваць на падтрымку — сацыяльную, грамадскую...

*4 і 5 лютага ў Слуцку і Слуцкім раёне прайшла «выязная прыёмная» «Звязды» і Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі з удзелам адказных работнікаў міністэрстваў сацыяльнай абароны насельніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя нашай краіны*





Менавіта такое перакананне кіравала рэдакцыяй нашай газеты, Федэрацыяй прафсаюзаў краіны пры абмеркаванні самой ідэі арганізацыі і правядзення «выязной прыёмнай» «Звязды». Прыём асобных грамадзян, агульныя сустрэчы з жыхарамі Слуцка, шэрагу населеных пунктаў Слуцкага раёна, выезд па асобных адрасах, указаных людзьмі, не хацелася б і мерапрыемствам называць. Няхай ужо ўсё, што адбылося, лічыцца звычайнай журналісцкай камандзіроўкай, у якой адразу ўдзельнічалі пяць супрацоўнікаў «Звязды». А яшчэ разам з намі працавалі прэс-сакратар Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Галіна Аляксееўна Акулава, намеснік начальніка юрыдычнага аддзела ФПБ Святлана Іванаўна Смаглюк, намеснік начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва Валянціна Вікенцьеўна Каралёва, галоўны інспектар аддзела па справах інвалідаў гэтага ж міністэрства Рыта Валянцінаўна Сушко, намеснік начальніка ўпраўлення медыцынскай дапамогі насельніцтву Міністэрства аховы здароўя Віктар Іосіфавіч Трусіла, начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Станіслаў Мікалаевіч Дзямяшкевіч, кіраўнік праўлення жыллёва-камунальнай асацыяцыі «Мінскаблкамунальнік» Уладзімір Іосіфавіч Крыльчык. Разам з намі прыём грамадзян ажыццяўлялі работнікі Слуцкіх гарвыканкама і райвыканкама.

Дарэчы, асабліва хацелася б падкрэсліць, што ўдала праведзеная «выязная прыёмная» атрымалася дзякуючы падтрымцы мясцовых уладаў, кіраўнікоў слуцкага райвыканкама і гарвыканкама Зянона Ломаця і Аляксандра Сайко.

Адразу варта заўважыць, што ў «выязную прыёмную» за два дні звярнуліся 173 чалавекі, у тым ліку атрымана 48 пісьмовых заяў. Зазначым, што ўсе звароты і заявы ўзятыя на кантроль рэдакцыяй газеты «Звязда».

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

**На здымках:** *Прыём наведвальнікаў у калгасе «XVI партз'езд»; з людзьмі гутарыць намеснік начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны* **В. КАРАЛЁВА** *і намеснік старшыні Слуцкага гарвыканкама начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва* **У. ПРАХОРЫК.**

## ГРАНІЦА — ГЭТА ГРОШЫ, ЯКІЯ МОЖНА І ТРЭБА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ НА КАРЫСЦЬ НАРОДА

Свята-Уваскрасенская царква стала першым месцам, дзе пабываў 6 лютага Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час візіту ў Брэсцкую вобласць. Рашэнне аб наведванні гэтага праваслаўнага храма, аднаго з буйнейшых культавых збудаванняў, якія ўзводзяцца ў нашай рэспубліцы, кіраўніком дзяржавы было прынята не выпадкова. Яшчэ ў час мінулагодняй паездкі ў Брэст Аляксандр Лукашэнка выдзеліў для будаўніцтва Свята-Уваскрасенскай царквы пэўныя фінансавыя сродкі.

Наступным месцам, якое наведаў прэзідэнт, стаў пагранічны пункт пропуску «Варшаўскі мост». Кіраўнік дзяржавы азнаёміўся з рэканструкцыяй гэтага пагранпераходу, адначасова з гутарыць са старшынёй Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Аляксандрам Паўлоўскім, што граніца ў мінулым годзе дала значныя паступленні ў бюджэт краіны. «На гэтыя грошы, — падкрэсліў прэзідэнт, — мы можам падтрымліваць і медыцыну, і спорт, і адукацыю».

Пабываў Аляксандр Лукашэнка і на будаўніцтве грузавога аўтамабільнага прадпрыемства-тэрмінала «Брэстгрузаўтасервіс».

Аб'ект павінен уступіць у строй у маі гэтага года і зможа абслугоўваць да 2000 аўтамабіляў у суткі, што скароціць чэргі ў прыгранічча.

У час наведвання грузавога пункта пропуску «Казловічы», які цяпер таксама рэканструюецца, кіраўнік дзяржавы падвёў вынікі свайго знаходжання на беларуска-польскай граніцы. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ўсе яго мінулагоднія даручэнні выкананы на 100 працэнтаў. Паводле слоў прэзідэнта, іншаземцаў трэба зацікавіць у тым, каб яны ехалі праз Беларусь, а не праз іншыя краіны. Для гэтага неабходна зрабіць усё, каб, перасякаючы беларускія рубяжы, людзі не зведвалі нязручнасцей. Прэзідэнт яшчэ раз падкрэсліў, што граніца — гэта грошы, якія можна і трэба выкарыстоўваць на карысць народа.

Знаходзячыся на Брэстчыне, Аляксандр Лукашэнка наведаў і саўгас-камбінат «Заходні» Брэсцкага раёна, дзе азнаёміўся з работай аднаго з буйнейшых у вобласці свінагадоўчых комплексаў. Разлічаны на ўтрыманне 80 тысяч галоў свіней, цяпер ён запоўнены крыху больш як напалавіну. У мінулым годзе гаспадарка прадала дзяржаве 6 тысяч 300 тон мяса. Прычым вытворчасць яго, дзякуючы ўкараненню найноўшых тэхналогій, поўнасцю эфектыўная. Цяпер жа стаіць задача далейшага нарошчвання пагалоўя і аб'ёмаў вытворчасці.

Зрэшты, была і яшчэ адна прычына для наведвання прэзідэнтам гэтай гаспадаркі. Ужо некалькі месяцаў калектыў саўгаса-камбіната занепакоены далейшым лёсам дырэктара Аляксандра Біча. Як вядома, у пачатку снежня мінулага года спецыялісты Камітэта дзяржкантролю па Брэсцкай вобласці выявілі ў «Заходнім» больш як 20 гектараў няўбранай кукурузы. На сваім пасяджэнні кантралёры прынялі рашэнне рэкамендаваць рэспубліканскім аграрным уладам ануляваць кантракт з Аляксандрам Бічом і вызваліць яго ад займаемай пасады. Аднак з гэтым не згадзіліся многія радавыя працаўнікі і спецыялісты гаспадаркі. Яны напісалі нямала хадайніцтваў і пісем у абарону свайго кіраўніка, у тым ліку і прэзідэнту краіны.

У час гутаркі з працаўнікамі саўгаса-камбіната Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Я ў вас вашага дырэктара не забіраю. Галоўнае, каб ён прызнаў свае памылкі».

У Брэсцкім аблвыканкаме ў гэты ж дзень прэзідэнт краіны ўручыў урадавыя ўзнагароды перадавікам вытворчасці вобласці.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## СЁННЯ Ў СПАРТЫЎНЫМ ПАРКУ АЛІМПІЙСКАГА ГОРАДА НАГАНА СТАРТУЮЦЬ XVIII ЗІМОВЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

Рэкордная колькасць краін — 72 — прыме ўдзел у галоўных зімовых стартах апошняга чатырохгоддзя. Усяго будзе разыграна 68 камплектаў узнагарод у 14 відах спорту.

Беларускія атлеты (усяго 62 чалавекі) паспрачаюцца ў 9 дысцыплінах. Асноўныя надзеі на медалі, безумоўна, ускладзены на біятланістаў (у Нагана выйдуць на старт 12 нашых «страляючых лыжнікаў») і на фрыстайлістаў (6 спартсменаў). Канешне, спадзяюцца айчынныя балельшчыкі хакея і на паспяховае выступленне нашай лядовай дружыны (састаў зборнай — 23 хакеісты).

У астатніх 6 намінацыях надзеі беларускіх алімпійцаў на поспех больш сціплыя: лыжнае дваябор'е (2 спартсмены); скачкі з трампліна — 2; гарналыжны спорт — 1; канькабежны спорт — 1; фігурнае катанне — 1 спартыўная пара); лыжныя гонкі — 10.

Ніводным спартсменам не будуць прадстаўлены беларусы ў жаночым хакеі з шайбай, шорттрэку, бабслеі, санным спорце і керлінгу.

Арганізатары турніру прагназіруюць камандам наступныя вынікі: 1. Германія — 28 медалёў (11 залатых, 9 сярэбраных і 8 бронзавых), 2. Канада — 23 (10—10—3), 4. Нарвегія — 22 (7—10—5), 4. Расія — 20 (5—9—6). Беларусь у першай дзесятцы прэтэндэнтаў не значыцца. І тым не менш, будзем спадзявацца на лепшае.

«Звязда» на працягу больш як двух тыдняў будзе падрабязна знаёміць сваіх чытачоў са спартыўнымі падзеямі, якія адбываюцца ў Нагана.

## ЛЕДЗЬ ТОЛЬКІ ЎСТУПІЎШЫ Ў ШЛЮБ, МНОГІЯ СПЯШАЮЦЦА ЯГО СКАСАВАЦЬ

Вынікі работы ЗАГСаў у мінулым годзе прааналізавала Міністэрства юстыцыі Беларусі. Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба гэтага ведамства, за 1997 год органамі ЗАГСа было зарэгістравана больш чым 360 тысяч актаў грамадзянскага стану. У іх ліку 90,8 тысячы нараджэнняў, 69,7 тысячы шлюбаў, 47,4 тысячы разводаў. Асабліва вялікая колькасць разведзеных сем'яў у Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай абласцях і ў Мінску.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 6 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 42500 | 43500 | 23700 | 24200 | 7000 | 7200 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 42500 | | 23500 | | 7000 | | 285-716 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32000.00 | | 17834.25 | | 5300.00 | | Курс на 07.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0380 | | 3.3694 | | 10000 BLR - 1.3894 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, установленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43480 | 43530 | 24230 | 24264 | 7175 | 7185 |

## АНОНС! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»!



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**19 лютага гэтага года з 14 да 15 гадзін па тэлефонах 232-38-21, 268-29-19 вы можаце задаць свае пытанні міністру культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандру САСНОЎСКАМУ.**

Тыя, хто хоча загадзя перадаць сваё пытанне міністру, тэлефануйце па нумару 268-29-42 у аддзел культуры газеты «Звязда» або пішыце на адрас рэдакцыі.

## УКРАІНА — СТРАТЭГІЧНЫ ПАРТНЁР БЕЛАРУСІ

Сэнс візіту ўрадавай дэлегацыі Украіны пад кіраўніцтвам прэм'ера Валерыя Пуставойценкі зводзіўся да разгляду даволі балючай праблемы ў двухбаковых гандлёвых адносінах — адмены падатку на дабаўленую вартасць. Аднак на выніковай прэс-канферэнцыі двух прэм'ераў высветлілася, што ніякага дакумента на гэты конт падпісана не было.

— Мы прымем такое ж рашэнне па ПДВ, як і Расія, — рэзюмаваў па гэтай праблеме С. Лінг. Аднак ён не канкрэтызаваў, калі гэта адбудзецца. Магчыма, патрэбна таксама сустрэча двух прэзідэнтаў «без гальштукаў», каб падпісаць канчатковыя дакументы па адмене ПДВ ва ўзаемным гандлі, што значна спросціць рух тавараў праз украінска-беларускую мяжу і зробіць іх таннейшымі.

Учора ж беларускі і украінскі прэм'еры падпісалі пратакол аб выніках візіту і некалькі зусім не маштабных пагадненняў: аб урадавай сувязі, аб судназходстве па ўнутраных водных шляхах, аб узаемным прызнанні дыпломаў і вучоных ступеняў.

— Мы лічым, што ў адзіночку з таго балота, у якое мы трапілі, нам не выбрацца, — такую выснову зрабіў В. Пуставойценка. — Таму мы павінны цалкам каардынаваць нашу далейшую работу ў эканамічным плане, у развіцці сувязяў, кааперацыі нашых прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў і банкаў. Учора я прапанаваў распрацаваць праграму эканамічнага супрацоўніцтва Украіны і Беларусі на 10 гадоў, і гэтая прапанова была прынята.

С. Лінг назваў гэты візіт чарговым крокам на дынамічным шляху ўзаемаадносінаў паміж Беларуссю і Украінай, які павінен даць станоўчыя зрухі ўжо ў гэтым годзе. С. Лінг назваў Украіну «стратэгічным партнёрам Беларусі».

6 лютага кіраўнік украінскага ўрада разам з беларускім калегам наведалі два буйнейшыя мінскія прадпрыемствы — МТЗ і «Інтэграл». Візіт быў хуткім азнаямляльным. Кіраўнікі гэтых прадпрыемстваў прадэманстравалі сваю прадукцыю, крыху скардзячыся, што ва Украіне яна пакуль дрэнна разыходзіцца. Генеральны дырэктар МТЗ М. Лявонаў прапанаваў украінскаму боку ўзяць 10 тысяч трактароў у абмен на чыгун і прадукцыю сельскай гаспадаркі. МТЗ, які прадае свае трактары ў 35 краінах свету, ва Украіне мае больш за 20 сваіх дылераў.

Украіна са свайго боку таксама праяўляе зацікаўленасць ў продажы сваёй сельскагаспадарчай прадукцыі ў Беларусі. Да візіту дэлегацыі ўкраінскага ўрада было прымеркавана адкрыццё прадстаўніцтва ўкраінскага дзяржаўнага канцэрна «Хлеб Украіны».

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**



# Чалавек павінен разлічваць на падтрымку — сацыяльную, грамадскую...

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.

У МОЎНА звароты грамадзян можна падзяліць на наступныя групы. Першая — пэўныя канкрэтныя пытанні (як, прыкладам, рамонт вокнаў альбо дзвярэй, даху і г. д.). Другая — пытанні агульнага зместу (права на атрыманне жыллёвых субсідый і г. д.), якія патрабуюць тлумачэння з пункту гледжання існуючых заканадаўчых нормаў, што мы з дапамогай юрыстаў рабілі адразу, што будзем рабіць і надалей на старонках «Звязды». Трэцяя група — складаныя, даволі цяжкія сітуацыі, у якія многіх людзей загналі змены, што адбыліся ў апошняе дзесяцігоддзе ў грамадска-палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці. Выразны прыклад — заява жыхароў дамоў 1"А» і 1"Б» па вуліцы Гагарына ў Слуцку. Дазволім сабе яе працытаваць: «...Дамы былі пабудаваны ў 1980 годзе ракетнай вайсковай часцю. У пачатку 90-х вайсковая часць была расфарміравана і выведзена за межы Рэспублікі Беларусь. З гэтага моманту нашы дамы нікому не належаць. Мы жывём без прапіскі, што стварае пэўныя цяжкасці. Без прапіскі нас не ставяць на чаргу для паляпшэння жыллёвых умоў, мы не можам атрымаць паліва для ацяплення кватэр па дзяржаўных цэнах, паколькі паліўныя кніжкі выдаюцца таксама пры наяўнасці прапіскі і тэхнічнага пашпарта. Мы не можам уладкавацца на працу, прапіска патрэбная для звароту ў гаргаз, электрасеткі, бальніцу і г. д... Кватэрную плату і плату за паслугі мы аплачваем двойчы: там, дзе прапісаны, і тут. ...Была дасягнута дамоўленасць, што пасля падрыхтоўкі КЭЧ тэхнічных пашпартоў... гарвыканкам возьме кватэры на баланс. Тэхнічныя пашпарты гатовыя, а КЭЧ і выканкам так і не могуць вырашыць пытанне, хто з іх возьме нашы дамы на баланс. Адпаведна 70 чалавек да гэтай пары жывуць без прапіскі, у падвешаным стане...»

У апошні час Слуцкі гарвыканкам узяў на сябе клопат за вайсковыя жылыя гарадкі, у якіх пражываюць каля 15 тысяч ваеннаслужачых, членаў іх сем'яў. Можна толькі здагадвацца, які цяжар лёг на плечы гарвыканкама. Дамы па вуліцы Гагарына знаходзяцца ў найскладанейшым тэхнічным стане. Бяда жыльцоў дамоў па вуліцы Гагарына стане тэмай нашага асобнага выступлення, рыхтуючы якое, нам, зразумела, давядзецца абіваць парогі зусім не слуцкіх уладных кабінетаў.

Наступная група зваротаў — так бы мовіць, кампрамісныя пытанні. Здараецца, згодна з сённяшняй сітуацыяй і існуючымі законамі, ніхто не абавязаны дапамагаць чалавеку рамантаваць яго ўласны дом. Але ж калі гаспадыня гэтага дома — маці-адзіночка, інвалід III групы, то, мусіць, трэба знайсці варыянт матэрыяльнай падтрымкі. Акрамя законаў пісаных, пагадзіцеся, ёсць законы няпісаныя. Законы дабра, маралі, чуласці, спагады. І для ўлады, якая хоча мець грамадскую падтрымку, — яны ўсё ж такі пісаныя, няхай сабе часам і не зацверджаныя заканадаўчымі інстытутамі.





Размаўляючы з людзьмі ў Слуцку, Грэску, Вясеі, іншых вёсках Случчыны, мы, канешне ж, цікавіліся настроем гараджан і вяскоўцаў. Так, сапраўды, многія сыходзяцца ў тым, што жывецца цяжка. Адна жанчына немаладога веку так і сказала: «Дайце нам ранейшае жыццё...» Пры гэтым нагадала і пра танны хлеб, і пра адсутнасць праблем з аўтобусным рухам, і шмат што яшчэ, нястача чаго ўспрымаецца бядою найвелізарнейшай. Добра думаючы пра неблагі матэрыяльны бок ранейшага жыцця, праўдзе ў вочы гледзячы, мы павінны заўважыць: ніхто — ні журналісты, ні нават урад — ранейшага жыцця не верне. Палепшыць жа сённяшнюю сітуацыю, спадзяёмся, можна. Але толькі ўсім разам, толькі нястомнай працай. На вялікі жаль, часцей атрымліваецца, што гэта якраз у калгаснікаў, вяскоўцаў праца сапраўды нястомная, знясільваючая. За якую — і на Случчыне таксама — плацяць зусім малыя грошы, да таго ж не заўсёды ў пару.

І тым не меней, людзям вясковым ці не ў першую чаргу ўласцівы аптымізм. Звычайны жыццёвы аптымізм, які з'яўляецца гарантам змен да лепшага. Прыемна ўразіла знаёмства з калгасам імя Арджанікідзе, вёскай Вясеяй. І хаця ў жыхароў гэтай старонкі таксама хапае клопатаў, усё ж тут людзі, нам здаецца, з тых, што трывала стаяць на зямлі. Нават храм, як гэта сёння ні цяжка, будуюць. Але пра храм, пра складанасці з яго будаўніцтвам, пра абяцанні і няпамятлівасць некаторых чыноўнікаў у дачыненні да гэтай справы, — размова асобная. Там жа, у Вясеі, працуе і выдатны Палац культуры. І знешні выгляд яго, і ўнутраны змест, насычэнне — усё ўражвае. Нават карцінная галерэя тут ёсць. На палотнах — твары вясейскіх працаўнікоў, мясцовыя краявіды.

...Падагульненне, як і асэнсаванне «выязной прыёмнай», — яшчэ наперадзе, на старонках наступных нумароў «Звязды». Зараз мы толькі пачынаем разглядаць кожную з заяў, скаргаў, кожны са зваротаў на адрас «выязной прыёмнай». Спадзяёмся, што па кожнаму з пытанняў мы абавязкова дасягнем канкрэтнага выніку.

А ў хуткім часе мы назавём адрас наступнага пасяджэння «выязной прыёмнай» «Звязды», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і міністэрстваў сацыяльнай абароны насельніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя. Сачыце за старонкамі «Звязды».

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**Галіна АКУЛАВА:**

*«Ідэя «Звязды» аб правядзенні «выязной прыёмнай» аказалася сапраўды патрэбнай справай. Думаю, што падобныя сустрэчы будуць спрыяць актывізацыі работы прафсаюзных органаў на месцах, лепшаму ўзаемадзеянню прафсаюзаў з мясцовымі ўладамі ў вырашэнні пытанняў абароны людзей працы. Слуцкі раён паказаў, што людзі цікавяцца дзейнасцю ФПБ, спадзяюцца на прафсаюзы, таму прадстаўнікі Федэрацыі з задавальненнем і надалей будуць браць удзел у падобных мерапрыемствах.»*





**Уладзімір КІРЫЛЬЧЫК:**

*« Такія сустрэчы карысныя ўжо тым, што зараз мы ведаем, на якія накірункі рабіць упор у далейшай рабоце. Калі шчыра, пасля Слуцка я нават усур'ёз задумаўся, а ці не варта пайсці далей і рэгулярна наладжваць падобныя сустрэчы і нам, камунальнікам?»*



**Рыта СУШКО:**

*«Што датычыць вёскі, то яе жыхароў найболей турбавалі пытанні цэнавай палітыкі, работа аўтатранспарту, медыцынскага абслугоўвання, дастаўкі прадуктаў і тавараў туды, дзе не працуюць крамы. І, вядома ж, вельмі шмат пытанняў па сацыяльнай абароне грамадзян...»*



**Станіслаў ДЗЕМЯШКЕВІЧ:**

*«Надзейнае і ўстойлівае забеспячэнне нармальных жыллёва-камунальных умоў — наша асноўная задача. Але, на жаль, не заўсёды і ўсё атрымліваецца. «Выязная прыёмная» паказала: у гарадской службе Слуцка выяўлены некаторыя недахопы. Абяцаем, што ўсе пытанні будуць зняты, а хібы — выпраўлены...»*





**Віктар ТРУСІЛА:**

*« Што да стану медыцыны на Случчыне, то можна сказаць адразу, што ў параўнанні з іншымі раёнамі тут справы не самыя горшыя. Адно, што асабіста ў мяне з'явіліся некаторыя пытанні наконт заробкаў мясцовых урачоў. Аднак мяркую, што вырашыць іх можна.»*



**Святлана СМАГЛЮК:**

*«Складваецца ўражанне, што людзям нестае юрыдычнай, прававой інфармацыі. Раім па тлумачэнні звяртацца і да нас, да Федэрацыі прафсаюзаў...»*

## Са «Звяздою» па жыцці. Цяпер яшчэ і ў новых чаравіках ад «Белвеста»



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

По праўдзе, Іван Антонавіч Барысавец, што жыве ў вёсцы Серагі Слуцкага раёна і працуе ў мясцовым калгасе імя Куйбышава бухгалтарам, «Звязду» мог і не выпісваць. Справа ў тым, што яго жонка, пакуль не выйшла на пенсію гады два таму, працавала паштальёнам, і магчымасць заскочыць на аддзяленне сувязі і пагартаць усе газеты адразу, канешне ж, была.

Аднак вось ужо больш як дзесяць гадоў таму ён зрабіў свой выбар, як кажуць, аднойчы і назаўсёды. Чаму? Таму што Івану Антонавічу, як жыхару вясковаму, вельмі падабаецца рубрыка «Сядзіба». Таму што газета (а яму сапраўды ёсць з чым параўноўваць) не загрувашчана назойлівай рэкламай. І, вядома, таму, што «Звязда» заўсёды піша праўду» і што менавіта з яе першай заўсёды можна даведацца пра ўсе навіны.

Цяпер у Івана Антонавіча ёсць яшчэ адна важкая падстава, каб добрым словам успомніць любімую газету. Бо, прыняўшы ўдзел у перадднавагодняй латарэі для падпісчыкаў, ён аказаўся ў ліку пераможцаў і выйграў чаравікі СП «Белвест». Магчыма, падарунак і не такі ўжо дарагі, затое прыемны. Больш важны сам факт, а таксама тое, што зараз ў хату Івана Антонавіча збяруцца сябры, каб павіншаваць як мае быць ды пажадаць, «каб доўга насіліся...», а найперш пагутарыць пра жыццё, гэта ці не самае галоўнае.

... На развітанне Іван Антонавіч заўважыў, што крочыць па жыцці са «Звяздою» добра. Але, відаць, добра ўдвая, калі крочыць давядзецца яшчэ і ў новых чаравіках...

**Сяргей ГРЫБ.**

## НАТАТКІ НА РОЗНЫЯ ВЫПАДКІ

### КАБ АДЗНАЧЫЦЬ ЮБІЛЕЙ ВЯСЕЛЛЯ, *ТРЭБА ВЕДАЦЬ, ШТО:*

праз 0,5 года сумеснага жыцця адзначаюць **зялёнае** вяселле.

Праз 1 год — **паркалёвае** вяселле. На гэты юбілей муж і жонка дораць адзін аднаму паркалёвыя насоўкі.

Праз 5 гадоў адзначаюць **драўлянае** вяселле, на якое прынята дарыць драўляныя прадметы (мэблю або посуд).

Анцынкаваны ж посуд дораць на 6,5 года сумеснага жыцця, г. зн. на **цынкавае** вяселле.

Праз 7 гадоў гуляюць **меднае** вяселле. Залогам звонкага шчасця ў гэты час лічацца медныя грошы.

Праз 8 гадоў спраўляюць **бляшанае** вяселле. На свой юбілей «маладыя» з задавальненнем прымуць у падарунак бліскучыя рэчы для кухні.

Праз 10 гадоў адзначаецца **ружавае** вяселле. Гэта самы падыходзячы час, каб падарыць мужу і жонцы ружы.

15 гадоў сумеснага жыцця — **шкляное** вяселле. Каб намякнуць на чысціню адносінаў мужа і жонкі, дораць шкляны посуд.

На 20-годдзе — **фарфоравае** вяселле — сервіруюць стол новым фарфоравым посудам.

Праз 25 гадоў гуляюць **срэбнае** вяселле, пасля якога побач з залатым пярсцёнкам надзяваюць срэбны.

30 гадоў — **жамчужны** юбілей. Муж дорыць жонцы каралі.

35 гадоў — **палатнянае** вяселле. Падарункі — палатняныя рушнікі і абрусы.

37,5 года — **алюмініевае** вяселле, якое сведчыць аб доўгім і трывалым шчасці.

Праз 40 гадоў — **рубінавае** вяселле — залаты пярсцёнак жонкі ўпрыгожваецца рубінам.

Праз 50 гадоў — **залатое** вяселле — залатыя заручальныя пярсцёнкі аддаюцца дзецям.

Праз 60 гадоў сумеснага жыцця муж і жонка адзначаюць **дыяментавае** вяселле, праз 70 гадоў — **падзячнае** вяселле і праз 75 — **кароннае.**

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

**Анатоль Сыс — з паэтаў, якія не часта друкуюцца. Шкада. У Сыса, аўтара кніг «Агмень» і «Пан Лес», — вялікая чытацкая аўдыторыя, мусіць, сапраўды аўдыторыя чуйных да паэзіі людзей. Шкадуем і мы, што сустрэчы рэдкія.**
**Што сёння друкуем усяго толькі адзін верш Анатоля Сыса.**



**Анатоль Сыс з Сымонам Свістуновічам, сваім сябрам, мастаком і да ўсяго — уласным карэспандэнтам «Звязды».**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

*Вышывала крыжыкам*
*мне ганучы маці,*
*на астылай печы*
*дамавік крактаў,*
*плёў з саломы бацька*
*навырост мне лапці,*
*а павук хатолку*
*з павуціны ткаў,*
*дзед шчапаў лучыну,*
*па сяўбе нудзіўся,*
*баба выглядала*
*месяц у вакне,*
*я ж у тую восень*
*так і не радзіўся,*
*але ўжо бадзяга*
*выбрала мяне.*




## *НУ І НУ!*

### ЗА СУВЕРЭНІТЭТ НАШАЙ КАЎБАСЫ

напэўна, вырашыў, выступіць той, хто на мінскім мясакамбінаце дадумаўся назваць новы гатунак гэтага прадукту гордым словам «Рэспубліканская». Каб не вывозілі за межы Бацькаўшчыны ў розныя там суседнія дзяржавы. Слушная думка!

Але ж уявіў сабе, што можа быць далей, — і жахнуўся. Якімі яшчэ ўзнёслымі дзяржаўнымі сімваламі, імёнамі, рысамі назавуць назаўтра бульбу, малако, капусту?

— Што вы здзіўляецеся з-за гэтай каўбасы? — сказаў мой сусед у чарзе ля прылаўка. — Ужо і гарэлка ёсць «Прэзідэнт».

— Гэта не ў гонар нашага, — запярэчыў я, — бо наш, самі ведаеце, да такога прадукту зусім не схільны. Гэта, відаць, у гонар іншага, бо паглядзіце, колькі сёння навокал канцэрнаў, кампаній, фірмаў, і ў кожнай ёсць свой маленькі прэзідэнт, ці, як раней казалі, «начальнік». А калі ты начальнік — то называй свой прадукт як сам пажадаеш, не зважаючы ні на што!

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**7 лютага**

500 гадоў (1498) **з часу атрымання Полацкам магдэбурскага права.**

Сёлета спаўняецца 90 гадоў (1908) **з часу выхаду першага зборніка вершаў Я. Купалы «Жалейка».**

* * *

Ад слова горш балюча, чым ад рук.

*Народная прымаўка.*

**8 лютага**

Сёлета спаўняецца 415 гадоў **з часу заснавання (1583) уладальнікам Нясвіжа М. К. Радзівілам-Сіроткай мураванага замка.** Тады ж быў складзены план города-крэпасці і пачалася забудова.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) **У. І. Ляпёшкіна,** паэта, заслужанага настаўніка Беларусі.

* * *

Магіла ўсіх памірыла.

*Народная прымаўка.*

Маленькі сабачка часта стрымлівае вялізнага дзіка.

*Лацінскае мудраслоўе.*

## ЗДАРОЎЕ, МАТЭРЫЯЛЬНЫ ДАБРАБЫТ І СЯМ'Я — ГАЛОЎНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ ДЛЯ СУЧАСНАЙ МОЛАДЗІ

**У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце прайшла рэгіянальная навукова-практычная канферэнцыя «Каштоўнасныя арыентацыі беларускай моладзі на рубяжы XXI стагоддзя», у якім бралі ўдзел навукоўцы з Беларусі, Расіі і Польшчы.**

Летась на Магілёўшчыне абласным сацыялагічным цэнтрам сумесна з Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук было праведзена даследаванне, у ходзе якога было апытана 830 маладых людзей.

Калі ў часы існавання Савецкага Саюза дзве вышэйшыя прыступкі ў шкале мэтавых каштоўнасцяў моладзі займалі праца і вучоба, то зараз сітуацыя змянілася кардынальным чынам: першыя тры месцы займаюць здароўе, матэрыяльны дабрабыт і сям'я, потым па парадку — праца, сяброўства, каханне, асабістая бяспека, адукацыя, дэмакратыя, рэлігія і бізнес. Па меркаванню сацыёлагаў, пэўную трывогу павінен выклікаць той факт, што адначасова вялікая колькасць апытаных незадаволены сённяшнім станам тых сфер жыцця, якія яны лічаць самымі галоўнымі каштоўнасцямі: больш за 17 працэнтаў рэспандэнтаў незадаволены станам здароўя, больш за палову — матэрыяльным дабрабытам і сямейным жыццём.

Лепшымі сродкамі дасягнення сваёй мэты ў жыцці большасць маладых людзей лічаць: папершае, павышэнне свайго прафесіянальнага ўзроўню, а на другім месцы — надзея на выпадак, удачу, шанцаванне, на што арыентаваны, дарэчы, 32 працэнты апытаных дзяўчат.

У параўнанні з часамі перабудовы рэзка знізілася цікавасць да палітыкі. Толькі крыху больш за чвэрць апытаных сказалі, што цікавяцца палітычным жыццём. Вялікую цікавасць да гэтай сферы маюць толькі 8 працэнтаў маладых людзей. «У адрозненне ад савецкіх, камсамольскіх часоў, калі патрабавалі больш палітыкі, сітуацыя змянілася да лепшага, — сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» акадэмік Яўген Бабосаў.

**Ілона ІВАНОВА.**

## Старонка Паўла Глобы

**8 лютага, НЯДЗЕЛЯ**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Сёння вельмі светлы і чысты дзень, ў які проціпаказана хлусіць, злавацца, спрачацца і плакаць. Наведайце храм, пачытайце малітвы. Будзьце добрымі і міласэрнымі. Добра дарыць падарункі і падаваць міласціну, аддаваць даўгі. Пазбягайце актыўных сілавых дзеянняў і перанапружання. Не намячайце на сёння пачатак новых спраў. Неспрыяльны час для падарожжаў. Удзяліце больш увагі сям'і, дзецям. Спрыяльныя сямейныя святы і любыя работы па дому. Сёння нельга рваць і дарыць кветкі.

**АДЗЕННЕ.** Рэкамендуюцца белы, жоўты і ружовы колеры, пазбягайце чорных, сініх і карычневых тонаў.

**ПРЫМЕТЫ.** Прачнуцца пад спевы птушак — знак вялікай радасці і ўдачы ў бліжэйшы час. Калі на вас упадзе пяро птушкі — да ўдачы, выйгрышу, багацця. Калі ў вашым доме ў гэты дзень распускаецца кветка ці вам нехта нечакана падорыць кветку ў вазоне — знак радасці і шчасця. Калі кветкі ў доме завялі — да хваробы і суму. Калі на вас падае лісце ці галінкі з дрэў — да непрыемнасцяў.

**СНЫ.** Звяртайце ўвагу толькі на канкрэтныя сны. Чым ярчэйшы сон, тым хутчэй ён рэалізуецца.

**МЕДЫЦЫНА.** Добра чысціць верхнія дыхальныя шляхі і лёгкія. Слабыя сэрца, страўнік, 12-персная кішка і грудныя залозы. Можна лячыць пазваночнік і касцявую сістэму, калені і сухажыллі.



Згубленае пасведчанне серыі А № 024639 ліквідатара вынікаў аварыі на ЧАЭС, выдадзенае на імя **Міхаіла Сямёнавіча ГАНЧАРОВА,** лічыць **НЕСАПРАЎДНЫМ.**



## *НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ*

### Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ:

# «Трэба шукаць і выхоўваць патэнцыяльнага сталага чытача, заўсёднага кніжнага пакупніка»

***З 18 па 20 лютага ў беларускай сталіцы пройдзе V Міжнародны кніжны кірмаш. Асноўнае месца правядзення традыцыйнай сустрэчы кніжнікаў з розных куткоў свету — Рэспубліканскі выставачны цэнтр па вуліцы Я. Купалы, 27. Арганізатары кірмашу — Дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў, Асацыяцыя кнігавыдаўцоў, Асацыяцыя кнігараспаўсюджвальнікаў незалежных дзяржаў, а таксама вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Макбел». Усяго ў кірмашы мяркуецца ўдзел больш як 300 экспанентаў. Напярэдадні V мінскага Міжнароднага кніжнага кірмашу наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёю яго арганізацыйнага камітэта, намеснікам старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Станіславам Антонавічам НІЧЫПАРОВІЧАМ.***

**— Чым усё ж такі адметны сёлетні кірмаш?**

— На мой погляд, кніжныя кірмашы — самая выразная форма прапаганды кнігі. Сёння ўжо, на шчасце, ні выдаўцам, ні распаўсюджвальнікам даказваць гэтага не трэба. Для беларускай дзяржавы прыярытэтнымі з'яўляюцца наступныя кніжныя кірмашы: маскоўскі, варшаўскі, франкфурцкі і мінскі. Калі гаварыць пра першыя тры, то яны даволі вядомыя ў свеце, маюць багатыя традыцыі. Наш жа праводзіцца па ліку пяты раз. Тут я хацеў бы нагадаць існуючую ў свеце канкурэнцыю кніжных кірмашоў. Вельмі складана трапіць у міжнародны каляндар, які вызначае час правядзення падобных мерапрыемстваў. І тым не менш, мінскі ёсць у календары — у календары расійскім. Да статусу вышэйпамянёных вядомых кірмашоў нам трэба яшчэ падцягвацца. На гэта патрэбен, безумоўна, час.

Што да сёлетняга «свята кнігі», то адразу заўважу шырокае прадстаўніцтва ў калектыўнай экспазіцыі кніжных выдавецтваў Расіі. Сваю друкаваную прадукцыю прадэманструюць у Мінску досыць вядомыя дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы СНД, сярод іх і расійскія фірмы, якія ахвотна працуюць на беларускім кніжным рынку. Пагадзіліся наведаць Рэспубліку Беларусь і арганізатары III расійскага, лейпцыгскага і варшаўскага кірмашоў. З беларускага боку будуць удзельнічаць 10 дзяржаўных выдавецтваў, кнігагандлёвае прадпрыемства «Белкніга», Мінская фабрыка каляровага друку, шэраг камерцыйных фірмаў з даволі багатым асартыментам кніг на рускай, беларускай, замежных мовах. Побач з кнігамі наведвальнікам і кліентам будуць прапанаваны самыя розныя і рознабаковыя па тэматыцы перыядычныя выданні, геаграфічныя карты, атласы, паштоўкі, рэпрадукцыі, маркі, іншыя віды паліграфічнай прадукцыі, а таксама кампакт-дыскі, відэакасеты, грампласцінкі, слайды, узоры сучаснай рэдакцыйна-выдавецкай тэхнікі. На кірмашы зацікаўленых людзей чакае сустрэча з узорамі айчынных і замежных дасягненняў у галіне кнігавыдання, паліграфіі і кнігараспаўсюджвання.

Мінскі кірмаш уяўляецца мне тым месцам, тым мерапрыемствам, дзе можна будзе ўбачыць перамены, тэндэнцыі, што існуюць у сусветным кнігавыданні. Быццам у люстэрку, на падобных сустрэчах адбіваюцца тыя працэсы, што адбываюцца ў тэхналогіі кніжнай справы. Аглядваючыся назад, мы заўважаем, што папярэднія кірмашы ўплывалі на стаўленне паліграфістаў, выдаўцоў да знешняга выгляду прадукцыі, яе якасці. Як прыклад — і паступовая замена цэлафаніраванага пераплёту больш сучаснымі матэрыяламі.

**— Станіслаў Антонавіч, чаму ў якасці прыярытэтных для Беларусі міжнародных кірмашоў вызначаюцца менавіта варшаўскі, франкфурцкі, маскоўскі?**

— Вядома ж з-за таго, што ў іх даволі высокі ўзровень. Адтуль да нас ідзе перакананне, і пасля ўжо гэта спраўджваецца ў айчыннай практыцы, — што спажывец сёння ў большай ступені арыентуецца на даведачную, энцыклапедычную літаратуру. Другі ўрок — змяншаюцца тыражы, пашыраецца асартымент, скажам так. Ужо мінуў час стотысячных, мільённых тыражоў. Безумоўна, гэта выклікае ў выдаўцоў лішнія складанасці. Але хто сказаў, што ва ўмовах рынку працаваць будзе лёгка?..

А што датычыць маскоўскага кірмашу, то ён яшчэ важны і непарыўнасцю расійска-беларускіх рыначных сувязяў. У нас, у Расіі і Беларусі, — адна рынчная прастора. Мы ж і па матэрыялах для паліграфічнай прамысловасці знаходзімся ў цеснай сувязі з Расіяй. Фактычна ўсё атрымліваем адтуль. Да таго ж Маскоўскі кніжны кірмаш — гэта і найбольш рэальны шанц нашых выдаўцоў заявіць аб сабе на больш шырокім рынку.

**— Магчыма, па затратах беларуская кніга таннейшая, чым кнігі, надрукаваныя ў Маскве альбо Смаленску?**

— Я ўжо гаварыў пра тое, што практычна ўсю паперу, усю сыравіну мы купляем у Расіі. Зразумела, цэны для нас аднолькавыя, як і для расійскай паліграфіі. Наадварот узнікаюць яшчэ і праблемы. Рознасць у курсах расійскага і беларускага рубля, рознасць заработнай платы... Усё гэта ўплывае на характар эканамічных, гандлёвых зносінаў. Не заўсёды стае валюты і г. д. Так што, маючы, безумоўна, меншую прастору для распаўсюджвання айчыннай кнігі, мы знаходзімся ў аднолькавых умовах з расійскімі выдаўцамі.

**— І значыць, відавочна, аднолькавыя шляхі для прыцягнення спажыўца... У Расіі, калі звярнуць увагу на кніжную рэкламу ў сродках масавай інфармацыі, літаральна ідзе сапраўднае паляванне за чытаючым чалавекам.**

— Я хацеў бы ўдакладніць, што размова не толькі пра кніжную рэкламу, але, магчыма, нават у большай ступені пра кніжную прапаганду. Мяне па-добраму ўражвае прыклад Варшаўскага кніжнага кірмашу. Там заўсёды для знаёмства з экспазіцыяй прыходзяць дзеці, школьнікі, студэнцтва. Пагадзіцеся, каму, як не ім, патрэбна ў першую чаргу кніга — пазнавальная, папулярная, вучэбная, навуковая, энцыклапедычная, ды і мастацкая, вядома ж, таксама. Гэты вопыт бяром на ўзбраенне і мы пры правядзенні чарговага кніжнага кірмашу. Ужо ёсць пэўная дамоўленасць з аддзеламі, упраўленнямі адукацыі. Менавіта праз школьнікаў, моладзь трэба найперш шукаць, выхоўваць патэнцыяльнага сталага чытача, заўсёднага кніжнага пакупніка. Дзяржава наша сёння прыкладае велізарныя намаганні па фінансавай падтрымцы кнігавыдання. Але павінна праводзіцца і велізарная прапагандысцкая работа. Кнігу трэба, а раней мы менавіта так і гаварылі, несці ў масы. Думаю, што пэўную падтрымку акажа нам і Нацыянальная Тэлерадыёкампанія, прадаставіўшы тэлеэфірны час для спецыяльнай перадачы па прапагандзе кніжных навінак. Набірае свае абароты і рэкламна-інфармацыйная газета «Книжный мир». Будзем спадзявацца, што і тэлевізійная перадача, і газета, і ўвогуле штодзённыя намаганні па прапагандзе кнігі стануць добрымі памочнікамі і Мінскага кніжнага кірмашу, і беларускіх выдавецтваў у цэлым.

**Гутарыў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Алена СПІРЫДОВІЧ:

# «Быць добразычлівым натуральна, як дыхаць...»

*«... У мяне такое адчуванне, што ты працуеш на вакзале, — сказаў Алене Спірыдовіч яе муж Юрый Брэут, рэжысёр тэлевізійнага часопіса моды «Бон-тон». — Я цябе туды пастаянна адводжу і пастаянна адтуль забіраю...»*

*«Справа ў тым, што апошнім часам я вельмі мала бываю дома, шмат езджу», — прызналася наша субяседніца.*

*Алена прадстаўляе Беларусь на міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар», традыцыйна вядзе конкурсную праграму ўкраінскага фестывалю «Залатая восень Славуціча», была вядучай конкурсу маладых кінаартыстаў у рамках арганізаванага кінакампаніяй «Кінатаўр» міжнароднага фестывалю «Лікі кахання» (сярод членаў журы былі Джына Лалабрыджыда, Сільвія Крыстэль).*

*Прымаючы ўдзел ва ўкраінскім, як Алена сказала, «плывучым» фестывалі «Бархатны сезон», яна пабывала ў Венецыі, Канах, Монтэ-Карла, у Ніццы і Барселоне... Аднак да ліку паліглотаў сябе не адносіць:*

— О, гэта мая бяда! У школе вывучала іспанскую, якую канчаткова забыла ў студэнцкія гады. Адносна англійскай далей няправільных дзеясловаў справа не зрушылася... Затое сын размаўляе па-нямецку і па-англійску...

Акрамя таго Алена з'яўляецца вядучай рэспубліканскага тэлевізійнага конкурсу маладых артыстаў эстрады «Зорная ростань».

**— А што для цябе больш прыемна: кіраваць ці падпарадкоўвацца?**

— Ніколі не хацела быць начальніцай, не адчувала патрэбы сабе некага падпарадкоўваць... Побач з жанчынай абавязкова павінны быць разумныя мужчыны, якія будуць яе быццам бы настаўляць, накіроўваць, несці адказнасць за ўсё тое, што яна робіць, і абавязкова берагчы. Я за гэта.

**— Ад чаго ж трэба берагчы Алену Спірыдовіч?**

— Вельмі баюся людской нядобразычлівасці. Нехта, магчыма, лічыць, што не вельмі сучасна быць добразычлівым, адкрытым чалавекам, але ў маім разуменні гэта так жа натуральна, як дыхаць, піць, есці...

**— Значыць, настаў час гастранамічных пытанняў. У тыя рэдкія дні, калі бываеш дома, чым смачным корміш сваю сям'ю?**

— У мяне двое мужыкоў, якія любяць паесці: семнаццацігадовы сын Саша (з вельмі добрым апетытам і да ежы і да жыцця наогул) і муж. Юру, напрыклад, падабаецца, калі ў мяне валасы пахнуць блінамі, калі я на кухні гатую боршчык...

**— Па аўтарскаму рэцэпту?**

— О, гэта вельмі складаная страва. Разам з поўным стандартным наборам: буракамі, морквай, бульбай, абавязкова прысутнічаюць фасоля і перацёртае з часнаком несалёнае сала.. А зусім нядаўна Іна Афанасьева навучыла мяне дабаўляць у гэты боршч грэчку і чарнасліў. І сапраўды, аказалася вельмі смачна! Галоўнае — не «перабаршчыць» у гэтым баршчы, каб усяго было пакрысе.

**— А чым харчуюцца мужчыны калі цябе няма?**

— Самі нешта «хімічаць». Ёсць падазрэнне, што на ёгуртах сядзяць: купляюць іх з дзесятак у



зручных паўлітровых упакоўках і ядуць з хлебам. Можа, прыдумваюць яшчэ нешта, не ведаю, але ва ўсякім разе мне вядома, што посуд яны пачынаюць мыць толькі тады, калі заканчваецца апошняя чыстая талерка ў доме. А ў нас, між іншым, 44-прадметны французскі сервіз — уяўляеш, колькі ім, бедным, працаваць даводзіцца, каб сустрэць мяне з чыстым пасудам?

**— Спачуваю... І пры гэтым захапляюся тваёй абаяльнай знешнасцю. Цікава, гэта ты прыдумала сваю «фірменную» прычоску, якая табе так пасуе?**

— Аднойчы па вялікаму «блату», я, у той час яшчэ ўладальніца даволі доўгіх валасоў, пайшла ў рэспубліканскую лабараторыю цырульніцкага майстэрства рабіць чарговую хімічную завіўку. Мяне пасадзілі пад чырвоную лямпу, дзе, як я потым высветліла, трэба было знаходзіцца ад трох да пяці хвілін, і забыліся... Праз паўгадзіны я выйшла з-пад яе сама: «бамбушкі» з накручанымі на іх валасамі, намочанымі спецыяльным растворам, пачалі проста адвальвацца. Што засталося на галаве — сам разумееш. Спачатку я перажывала, а потым сустрэлася з добрым майстрам, які сказаў: «Ведаю, што з цябе можна зрабіць».

**— А якая рэакцыя людзей, што ўпершыню ўбачылі цябе не на сцэне ці экране тэлевізара, а ў штодзённай сітуацыі?**

— Ведаеш, гэта так крыўдна, але часам мне робяць кампліменты: «Ой, у жыцці вы намнога лепш!» Уяўляеш, што значыць для тэлевізійнага чалавека пачуць такую фразу ў магазіне, на вуліцы, у аўтобусе?..

**— Самыя шчырыя і добрыя словы гаворыць, напэўна, блізкія людзі — сын, муж?**

— Канешне! Усё ж яны мяне вельмі любяць.

Любяць мяне і мае бацькі — Тамара Сцяпанаўна і Барыс Васільевіч. Яны мінчане, жывыя-здаровыя, але ў мяне пастаянна не хапае часу даць ім адчуць сваю любоў да іх — гэта проста нейкая трагедыя ў жыцці!.. А яшчэ ў мяне ёсць такая бабуля Зіначка (татава мама), мілая і мудрая! Іншы раз яна гаворыць, што ёй 86 гадоў, іншы — 89, праўды ад яе не даб'ешся... А маміма мама жыве ў суседняй са мной кватэры (мы спецыяльна так памяняліся) і, дзякуй ёй, вельмі мне дапамагае...

**Вячаслаў КЛІМЕНКА.**
**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА.**

## *Анталогія беларускай песні*

# Я РАЗУМЕЮ...

**«...Я чакала яе трыццаць гадоў. Гэта... — мая песня», — пачуў па тэлефоне Мікола Яцкоў. Ён не адразу здолеў асэнсаваць, што яму з Мінска ў Брылі Магілёўскага раёна тэлефануе зорка беларускай эстрады 60—70-х гадоў Нэлі Багуслаўская. Яна ўсхвалявана выказвала кампазітару падзяку за песню і прасіла даслаць ёй ноты і тэкст.**

Песню «Я разумею...» Міколы Яцкова на верш Генадзя Бураўкіна артыстка пачула ў аўтарскім выкананні ў анонсе радыёвяшчання і, зацікавіўшыся творам, праслухала радыёперадачу «Эстрадная студыя прапануе». Песня растрывожыла душу спявачкі. Праз Надзею Мікуліч, пра творчыя стасункі з якой распавядаў перад мікрафонам кампазітар, даведалася яго адрас і пазваніла ў Брылі, дзе ён працуе дырэктарам Дома культуры...

Гэта было ў снежні 1996 года.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## Я РАЗУМЕЮ...

**Верш Генадзя БУРАЎКІНА** **Музыка Міколы ЯЦКОВА**

Не, я не здолею, напэўна,
Прадбачыць свой апошні дзень,
Калі садоў густая пена
На дол абвалам упадзе.

*Прыпеў:*
*Я разумею, разумею —*
*Нашто аб гэтым варажыць?*
*Але жыцця ўсё меней, меней*
*Да мне адведзенай мяжы.*

Як ні жартуй, як ні храбрыся,
Не абмінеш зямны статут.
І там, за тою страшнай рысай,
Сяброў ужо не менш, чым тут.

І паплыве пустая лодка,
Згубіўшы ў чаратах вясло,
І стане вусцішна і лёгка
Так, як ніколі не было.
*Прыпеў.*
І колькі ў шчасці ні галёкай,
Прыцісне чорная туга,
Што недзе вельмі недалёка
Мая чарга, мая чарга.
*Прыпеў.*

# СМЕХАТЭРАПІЯ




Малюнак Аляксандра СКРЫПКО.

## АНЕКДОТ АД «ЗОРКІ»

**Айзек Азімаў, пісьменнік-фантаст:**

— У штаце Тэхас праходзіць штогадовы кірмаш. Выканаўшы некалькі эфектных фігур вышэйшага пілатажу, на полі побач з кірмашом садзіцца невялікі самалёт з адкрытай кабінай. Салідная выгляду фермер Том са сваёй жонкай Бэсі падыходзіць да машыны і пытаецца, ці нельга пракаціцца. Ён з жонкай ніколі не лятаў на самалёце і хацеў бы паглядзець на зямлю з вышыні птушынага палёту.

— Добра, — адказвае пілот. — Гэта будзе каштаваць пяцьдзесят долараў.

— Зашмат, — заўважае Том. — А за дваццаць пяць нельга пракаціцца?

— Ліха з вамі, сядайце. Магу вас пракаціць наогул бясплатна! Але ў час палёту вы не павінны адкрываць рот. Калі ж я пачую хоць бы адно слова, адзін гук, тады вы павінны будзеце аплаціць поўную таксу — пяцьдзесят долараў. Пойдзе?

— Пойдзе, — згаджаецца фермер. — Мы з Бэсі будзем маўчаць як рыбы.

І вось самалёт разбягаецца і ўзмывае ў неба. Пілот чакае, што муж з жонкай пачнуць захапляцца панарамай, якая адкрылася ім з вышыні, але тыя маўчаць. У кабіне толькі свішча вецер. Раззлаваўшыся, лётчык робіць «свечку». Фермеры маўчаць. Самалёт робіць «мёртвую пятлю». Той жа вынік. Нават «штопар» не змог вывесці фермера з жонкай з раўнавагі. Махнуўшы на ўсё рукой, лётчык выводзіць машыну з «піке» і робіць пасадку на полі. Дапамагаючы Тому выбрацца з кабіны, пілот заўважае:

— Ну вы даяце... Моцныя арэшкі. Трымалі раты на замку.

— Як дамовіліся, — адказвае фермер. — Прызнацца, у нейкі момант я думаў, што прайграю спрэчку.

— І калі гэта было? — ажыўляецца лётчык.

— Гэта было, калі Бэсі вывалілася з кабіны.

## І ТАК У ЖЫЦЦІ БЫВАЕ...

— Дзе вы працуеце?
— У джазавым аркестры.
— Які інструмент?
— Шыла.
— Як гэта?
— Вельмі проста. Дырыжор дае каманду, я ўтыкаю шыла ў зад Эме, яна крычыць «Ой!», а хор падхоплівае: «Мамба італьяна!»

*Адміністратар гасцініцы кажа кліенту:*

*— Я змагу пасяліць вас з гэтай жанчынай толькі тады, калі вы дакажаце, што яна ваша жонка.*

*Кліент адказвае:*

*— А калі вы дакажаце, што яна не мая жонка, я буду ўдзячны вам да самай смерці.*

## З НЕВЫДУМАНАГА...

У сувязі са святкаваннем Нараджэння Хрыстова экзамен па навуковаму атэізму пераносіцца з 7 на 8 студзеня.

***(З аб'явы на матфаку Башкірскага дзяржаўнага універсітэта.)***

Ёсць у яго і станоўчы, і адмоўны бакі. Станоўчы — тое, што ён ніколі не адмаўляўся ад даручаных спраў, а адмоўны, што ніколі іх не выконвае.

***(З характарыстыкі.)***

П'яны грамадзянін поўзаў па дарозе на жываце, чым парушаў правілы дарожнага руху.

***(З рапарта.)***

А што гарэлка была разведзеная, пацвярджае наступнае: звычайна пасля паўлітра я ўжо не трымаюся на нагах, а ў гэты раз я выйшаў на вуліцу і нават увязаўся ў бойку, за якую і атрымаў 10 сутак.

***(З тлумачальнай.)***

Прадаецца шчаня піт-буль-тэр'ер. Шэсць месяцаў. Ёсць усё. Любіць дзяцей.

***(З аб'явы ў газеце «Петербургские ведомости».)***




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## ГЭТА БЫЛО Ў...

*... АДЭСЕ*

— Розачка, як жыве ваш муж?

— Вы яшчэ спытайце ў мяне, з кім?!

•

Абрам з Сарай збіраюцца ў круіз на цеплаходзе.

— Дзяцей аддадзім маёй маме, — кажа Сара, — сабаку і канарэйку — цётцы Бэці, а ката возьме дворнік.

Абрам задумліва ўтаропіўся ў акно.

— Аб чым ты думаеш?

— Я думаю, калі ў кватэры будзе так ціха, навошта мне кудысьці ехаць? Можна і дома адпачыць.

*... МАСКВЕ*

Настаўніца тлумачыць дзецям значэнне тэрміна «рад». Затым просіць прыдумаць агульнае слова да некалькіх радоў назоўнікаў:

— Панядзелак, аўторак, серада... — дні тыдня, — кажа Маша.

— «Мерседэс», «Вольва», «Рэно» — аўтамабілі, — адказвае Волечка.

— Смірноў, Пятроў, Гарбачоў — гарэлка, — крычыць Вовачка.

*... ПАРЫЖЫ*

Жак ажаніўся. У яго пытаюцца:

— Ну як твая маладая жонка Луіза?

— Выдатна! Вельмі рэкамендую.

*... ЛОНДАНЕ*

Два джэнтльмены стаяць на мосце цераз Тэмзу. Унізе тоне чалавек і адчайна крычыць: «Ратуйце, дапамажыце, я не ўмею плаваць!»

Адзін джэнтэльмен звяртаецца да другога:

— Сэр, вы ўмееце плаваць?

— Не, сэр.

— І я не ўмею. Але ж мы не крычым аб гэтым на ўвесь Лондан.

## ГУМАРЭСКА

# Аб смачнай і здаровай ежы

Шаноўнейшы Мікалай Іванавіч! Пішуць вам мышы склада № 7. Усе мы вельмі паважаем вашу выдавецкую дзейнасць, каб не сказаць Вам некалькі слоў аб апошніх паступленнях.

«Фауст» Гётэ — неверагодны! Адна наша старая мыш, якая ў маладосці чытала «Фауста» па-французску, кажа, што на французскай ён быў больш посны, а пераказ Вашага перакладчыка на дзіва чароўны! Цудоўная таксама мелаваная папера, на рэдкасць пажыўная супервокладка, чаго мы ніяк не чакалі ад пераплёту.

Дарагі Мікалай Іванавіч! Пераплётную тканіну, не ў крыўду будзе сказана, Вы ўзялі танненькую, не па тэксту. Помніцца, на Шэкспіра і бязь не шкадавалі, а тут міткаль — фі!... А які быў добры Гётэ на ледэрыне! Навамодны ж полівінілацэтатны клей робіць яго наогул неядомым! Няўжо Вы і на касцявым клеі сталі эканоміць? Можа, гэта жарт? Але нас гэта не рассмяшыла.

Бясцэнны Мікалай Іванавіч! Днямі мы даелі графа Талстога. Якое ж цяжкае пачуццё сіроцтва авалодала намі! Рэч незвычайна разумная, тонкая, філасофская. Нам у ёй усё-ўсё надзвычай спадабалася! Адна наша мышка таксама трапіла пад колы цялежкі. Таму мы плакалі, заканчваючы раман. Гэта цуд! Але, як мы любілі грызці прэсшпан пераплёту! Ён, праўда, не такі добры, як саламяны жоўты кардон, але глянцавая корачка прыйшлася ўсім даспадобы. А ў якім захапленні ад апошняга ўрыўка былі нашы сваякі са склада № 9 — і перадаць немагчыма! І вось — канец... Новы ж Талстой выдадзены на газетнай паперы, з непрасушаным карашком, і сшыты дротам!

За «Натуральную гісторыю» Плінія — сардэчная Вам падзяка! Найзахапляльнае чытанне! Найсмачнейшы форзац! Свежы кардон чымсьці няўлоўна нагадвае каробачны буры, у якім размяшчаліся кнігі У. Грэйза «Псіхічныя анамаліі», толькі крыху больш салёны.

Чаму Вы не адказалі на наш запыт наконт Ключэўскага? Усё яшчэ маеце намер выдаць «Кнігу аб смачнай і здаровай ежы?» Выдатна! Мы яе вельмі чакаем.

А пакуль — бывайце, шаноўнейшы Мікалай Іванавіч!

Шчыра Вашы мышы склада № 7.

**Пад дыктоўку пісаў**
**Мікалай СІЛІН.**




Малюнак Васіля ПЯСКОВА.

## ДЛЯ ВАШАЙ КАРЫСЦІ

# Лыжня кліча

**Шматгадовыя медыка-біялагічныя даследаванні паказалі: ніводны іншы від актыўнага адпачынку не аздараўляе так, як сяброўства з лыжамі!**

Марознае паветра прыкладна ў 1,5 раза багацейшае кіслародам, чым летам на тым жа месцы і ў той жа час. А атмасфера нашых кватэр, спартзалаў і закрытых басейнаў, вядома, не ідзе з ім ні ў якае параўнанне.

Зімой у паветры вышэйшы ўзровень адмоўных іонаў. Яны танізуюць арганізм, умацоўваюць нервовую і сардэчна-сасудзістую сістэмы, здымаюць спазмы мускулатуры страўнікава-кішачнага тракта, бранхіяльных і сасудзістых сценак. Атрымліваецца, лыжныя прагулкі асабліва карысныя раздражняльным, узбудлівым людзям, а таксама тым, хто пакутуе ад нейрацыркулярнай дыстаніі, галаўнога болю, парушэнняў сну, бронхаспазмаў, запораў, дыскінезіі страўнікава-кішачнага тракта і жоўцевыводных шляхоў.

На лыжні лёгка дыхаецца яшчэ і таму, што снег валодае высокай адсарбіруючай актыўнасцю: як губка ўбірае пыл, куродым, выхлапныя газы.

Зімовае сонейка хаця і не грэе, але ўсё ж свеціць недарма! Пяшчотна пагладзіць яно разрумяненыя твары гаючымі промнямі, і ў скуры пад уздзеяннем ультрафіялету ўтворыцца вітамін Д, такі карысны асабліва дзецям.

Аднак нельга забывацца на тое, што мароз вельмі каварны і здольны радасць ад прыемнай прагулкі ператварыць у бяду. Калі вы апрануліся не па пагодзе, калі вам прыйдзецца доўга ісці або стаяць на ветры, ведайце: ёсць небяспека пераахаладжэння і абмаражэння. Гэта здараецца іншы раз нават пры тэмпературы паветра -7°С, калі абутак цесны або прамок, а твар і рукі адкрытыя рэзкаму ветру. Часцей за ўсё ад холаду пакутуюць твар, вушы, кісці, ступні.

Першая дапамога пры лёгкім абмаражэнні заключаецца ў паступовым адаграванні пераахалоджанага ўчастка цела сухім цяплом: нос, вушы, шчокі, лоб, падбародак закрыйце шалікам, рукавічкай, нацягніце ніжэй шапку, кісць або ступню ўхутайце любой тканінай, якая ёсць пад рукою.

Дома зрабіце сагравальную ванначку. Кісць або ступню апусціце ў тазік з халоднай (не вышэй 20°С) вадой і паступова на працягу паўгадзіны, разбаўляйце цёплай, даводзячы яе да 40°С. У час гэтай працэдуры абліце пацярпелы ўчастак скуры мыльным пеністым растворам, каб выдаліць бруд, а потым апаласніце чыстай вадой той жа тэмпературы.

Да адмарожаных участкаў твару і вушэй на працягу паўгадзіны прыкладвайце вільготную сурвэтку або ручнік, намачыўшы іх спачатку ў халоднай, а потым у больш цёплай вадзе, затым абмыйце мыльнай і чыстай вадой.

Пасля ванначкі і прымочак асцярожна прамакніце пашкоджаную паверхню чыстым сухім ручніком, памачыце борным вазелінам або фурацылінавай маззю, шмальцам або здорам, накрыйце чыстай тканінай і шарсцянай хусткай.

Піце паболей гарачага — чаю, малака ці проста вады. Гэта будзе садзейнічаць расшырэнню сасудаў, у тым ліку і ў вобласці абмаражэння, а значыць тут хутка адновяцца кровазварот і сілкаванне тканак.

-1354-

## ІДЭІ МАЙСТРУ

# Па снезе на шыпах

**Існуюць розныя канструкцыі міні-матацыклаў на базе дэталяў дзіцячых веласіпедаў і матораў Д-5 і Д-6, аднак у асноўным яны служаць для эксплуатацыі ўлетку. Мы ж прапануем стварыць машыну, на якой можна было б ездзіць і летам і зімой.**

Для яе вырабу неабходна ўзяць раму ад веласіпеда «Школьнік», колы — ад дзіцячага веласіпеда «Зайчык», матор — Д-6. Каб такім мапедам можна было карыстацца на зімовых дарогах, трэба пакрышкі абшыпаваць. Калі ў вас няма магчымасці вырабіць спецыяльныя шыпы, скарыстайце болцікі М5, надаўшы ім напільнікам неабходную форму. Як устанаўліваць шыпы, відаць на малюнку.




**Устаноўка шыпа: 1 — пакрышка, 2 — гайка, 3 — болт, 4 — шайба; а) болт да апрацоўкі, б) пасля апрацоўкі.**

Выпрабаванні паказалі, што і такое простае рашэнне сябе зусім апраўдвае: вядучае кола не праслізгвае нават на наледзях.

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Рамантуем валёнкі

**На вёсцы зімою валёнкі — абутак незаменны. Ды вось бяда — новых зваліць няма каму. Нічога не застаецца рабіць, як рамантаваць старыя.**

Спачатку іх неабходна добра пачысціць і прасушыць, а трэшчыны і парваныя месцы зашыць дратвай. Месцы, праношаныя да дзірак, запаўняюць укладышамі з лямцу, прышыўшы іх да валёнка дратвай. Усюды, акрамя падэшвы, на прышытыя ўкладышы нашываюць скураныя латкі. Яны павінны з усіх бакоў перакрываць лямец на 15—20 мм. Даўжыня шыўка — 4—6 мм.

Надоўга павялічвае тэрмін службы валёнак іх падшыванне. Падшыўка, да таго ж, засцерагае ногі ад сырасці. Падэшву для падшыўкі выразаюць са шчыльнага лямцу, а яшчэ лепш — з халявы старога валёнка, узятага ў 2-3 слаі. Таўшчыня падшыўкі павінна быць прыкладна 15—20 мм, а вышыня набойкі крыху вышэйшай і большай. Выкраіўшы падэшву, прашыйце яе двойчы ўручную скразным швом. Першы рад робяць у сярэдзіне падэшвы, другі — па контуру ступні.

Набойку робяць з некалькіх слаёў лямцу або абрэзкаў старога валёнка і трывала прышываюць да падэшвы. Затым валёнак насоўваюць на капыл і часова прыбіваюць яго трыма цвікамі — у наску, пасярэдзіне і на пятцы. Цяпер застаецца прышыць падэшву да краёў валёнка пры дапамозе трывалай дратвы і крывога шыла. Прышываюць падэшву аткрытым, а набойку — скразным унутраным швом.

Гэта традыцыйныя спосабы рамонту, а ёсць і іншы, з выкарыстаннем іншых інструментаў і матэрыялаў. Так, латку можна прыпаяць. А робіцца гэта наступным чынам. Бяруць жгуцік з капрону (у справу ідуць старыя панчохі) таўшчынёй 3-4 мм і накладваюць на ачышчаны ад бруду край дзіркі.

Зверху накладваюць лямцавую латку. Злёгку прыпаднімаючы яе ў адным месцы, праводзяць па капрону джалам разагрэтага паяльніка і, як толькі капрон расплавіцца, прыціскаюць гэты ўчастак латкі да валёнка.

-1355-

# РАК, ПРЫСЛУХАЙСЯ ДА ПАРАДЫ ВОПЫТНАГА ЧАЛАВЕКА!..

**Усходні гараскоп на наступны тыдзень**

КАЗЯРОГ пажне фінансавы поспех, атрымае прызнанне сваіх талентаў у навакольных і акажацца ў цэнтры ўсеагульнай увагі. Аднак планеты не раяць вам забывацца аб справах практычных і больш думаць пра будучыню. Гэтаму не павінны перашкодзіць ні паездка на зімні курорт, ні добры адпачынак у асяроддзі родных. Памятайце, што для справы даецца час, а на пацеху — усяго толькі гадзіна.

ВАДАЛЕЙ павінен будзе разумна распарадзіцца сваімі грашыма. Укладанне капіталаў толькі ў адзін дзелавы праект не гарантуе вялікіх дывідэндаў. Адважцеся на правядзенне хуткіх дзелавых аперацый. Нягледзячы на пэўную рызыку, яны будуць паспяховымі і прыбытковымі. На гэтым тыдні ўдача напаткае шоуменаў і тэатральных дзеячаў. Збудуцца вашы мары аб цікавых і рамантычных прыгодах.

РЫБЫ прыцягнуць усеагульную цікавасць да сябе поспехамі ў бізнесе. Вашы дзелавыя здольнасці адзначаць нават тыя, хто раней не верыў у іх і не лічыўся вашым сябрам. Але наперадзе цяжкая барацьба за новыя дасягненні, да якой трэба рыхтавацца ўжо цяпер. Бізнесмены на гэтым тыдні завершаць важны дзелавы праект. Дзяржслужачых-начальнікаў чакае новае павышэнне па службе.

АВЕНЫ павінны будуць вырашыць праблемы ў сямейным бізнесе. Калі не зможаце ўрэгуляваць адносіны мірна, тады лепш за ўсё пачынайце самастойную дзейнасць або шукайце новых партнёраў. Любое прамаруджванне з такім рашэннем прывядзе да фінансавых страт. Яны асабліва непажаданыя для вас у сувязі з маючымі адбыцца значнымі расходамі на рэарганізацыю бізнесу.

ЦЯЛЬЦЫ змогуць з вялікім поспехам паказаць свае здольнасці. Да выдатных вынікаў прывядзе рызыкоўная дзелавая аперацыя, а саюз у бізнесе з уплывовай асобай умацуе вашу рэпутацыю і надасць імпульс далейшай кар'еры. Дома чакайце з'яўлення праблем з бацькамі, якія маюць намер вельмі настойліва ўплываць на ваша асабістае жыццё. Асабліва не захапляйцеся дыетай, якая цяпер прынясе толькі адну шкоду.

БЛІЗНЯТЫ ўступаюць у складаны перыяд у адносінах з партнёрам па бізнесу, які з-за дамашніх неладоў пачне рабіць памылкі і зусім страціць цікавасць да агульнай справы. Праявіце крыху цярплівасці, і хутка ўсё зменіцца да лепшага. Вы набудзеце ўзаемаразуменне з калегам, а паездка за мяжу расшырыць вашы дзелавыя перспектывы. Хуткая сустрэча з замежнымі прафесарамі чакае моладзь, якая марыць атрымаць прэстыжную замежную адукацыю.

РАК атрымае выдатную параду вопытнага чалавека, што дапаможа вырашыць праблемы ў бізнесе і асабістым жыцці. Вы пачняце дзейнічаць па-новаму і з падвоенай энергіяй. Але не праяўляйце залішняй паспешлівасці і пазбягайце неабдуманых крокаў. Усё гэта можа азмрочыць вашы будучыя поспехі. Абдумайце далейшыя адносіны з каханым чалавекам. Яны прывядуць да скандалу, якога вы можаце пазбегнуць, калі будзеце дзейнічаць разумна, але не па волі сэрца.

ІЛЬВЫ даб'юцца поспехаў у бізнесе, калі будуць дзейнічаць самастойна і без аглядкі на іншых. На гэтым тыдні вы можаце пачаць ажыццяўленне новага праекта. Яго зацвярджэнне, праўда, пройдзе не без цяжкасцяў, што прымусіць вас добра-такі пахваляваца. Маёмасная спрэчка ў судзе закончыцца на вашу карысць. Добрая навіна ад каханага чалавека прыдасць сілы і выдатны настрой.

ДЗЕВА набудзе папулярнасць дзякуючы сваім поспехам у сферы мастацтва. Поспех чакае ўсіх, у каго ёсць цяга да творчасці і густ. Запрашэнне здымацца ў кіно паступіць дзякуючы намаганням уплывовай асобы. Да вас праявіць цікавасць і тэлебачанне, і прэса. У адносінах з роднымі, на жаль, вас чакаюць непрыемнасці, якіх нельга будзе пазбегнуць.

ШАЛІ не павінны праяўляць занадта вялікага аптымізму адносна будучых здзяйсненняў у бізнесе. Вынікі акажуцца не такімі, як чакалася. Не разлічвайце на іншых і не прымайце чужую дапамогу. Вы можаце дабіцца поспеху толькі ўласнымі сіламі. Да добрых вынікаў прывядуць вывучэнне замежных моў, заняткі жывапісам і музыкай.

СКАРПІЁНАМ трэба будзе ўзяцца за выкананне важнага дзелавога праекта або даведацца аб назначэнні на прэстыжную пасаду. Палітыкам трэба будзе зрабіць максімум намаганняў дзеля дасягнення сваіх мэтаў. Старэйшыя сваякі паднясуць каштоўны падарунак, а ў адносінах з каханым чалавекам з'явяцца нечаканыя складанасці, да якіх трэба быць гатовымі.

СТРАЛЬЦЫ змогуць зрабіць велізарную работу па рэарганізацыі свайго бізнесу. Праца не прападзе марна, і вас чакае ўдача ва ўсіх справах. Не выключана сустрэча з карысным чалавекам, які прапануе новыя ідэі ці перашкодзіць павышэнню ў кар'еры. Дзяржслужачым выпадзе выйгрышная карта, і яны атрымаюць значную прыбаўку да зарплаты. Вас чакае купля аўтамабіля, набыццё нерухомасці і паспяховыя аперацыі на рынку.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС**

*Дэлі*

## КУЛІНАРНЫ БЛАКНОТ

# Зноў яечня?

**Колькі разоў прыходзілася вам чуць гэтае пытанне ад сваіх дамачадцаў! Але ці варта адмаўляцца ад традыцыйнай яечні на снеданне? Можна проста паспрабаваць прыгатаваць яе крыху інакш.**



- Чорны хлеб парэжце кубікамі і абсмажце на алеі з абодвух бакоў, затым разбіце на патэльню яйкі.
- Вазьміце некалькі лустачак белага хлеба, выражце мякіш і абсмажце іх на масле. Сырыя яйкі памясціце ўнутр хлебных скарыначак. Вельмі смачна і да таго ж прыгожа.
- Кансерваваную фасолю як след прамыйце ў друшляку, абсмажце, заліце яйкамі.
- Вельмі смачная страва — яечня з памідорамі і рэпчатай цыбуляй. Спачатку на алеі ці масле абсмажце цыбулю, затым дабаўце парэзаныя долькамі памідоры і, калі яны крыху абсмажацца, яйкі. Прапорцыі — па смаку. Замест памідораў можаце ўзяць крыху таматнай пасты. Перад тым як падаць на стол, пасыпце зяленівам.
- Яечня з сырам або брынзай асабліва пажыўная. Гатаваць яе можна двума спосабамі: змяшайце яйкі з цёртым сырам або, што значна хутчэй, проста пакладзіце на яечню кавалачак сыру або брынзы і давядзіце страву да гатоўнасці, закрыўшы накрыўкай.
- Непераўзыдзены смак у яечні з грыбамі (падыдуць і свежыя і сухія). Падрыхтаваныя грыбы парэжце і абсмажце на масле з цыбуляй і памідорамі, затым выліце на патэльню яйкі.
- Чаму б не паспытаць яечню з ...яблыкамі? Яблыкі парэжце долькамі, абваляйце ў муцэ, абсмажце ў масле, выліце на іх яйкі і пастаўце запякаць у духоўку.
- Напаследак давайце прыгадаем рэцэпт знакамітага «ірландскага рагу», якое гатаваў адзін з літаратурных герояў. Бярэцца ўсё, што ёсць у доме, дробна рэжацца і залiваецца амлетам. Пры дапамозе гэтага рэцэпта можна прыгатаваць не толькі снеданне, але і вячэру на скорую руку, здзівіўшы пры гэтым незвычайным і кожны раз новым смакам любога гурмана.

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Геніямі становяцца выпадкова

**Роберт Шуман** пачынаў як бліскучы піяніст, і калі б не параліч рукі, які прымусіў яго адмовіцца ад канцэртнай дзейнасці, мы, магчыма, не мелі б кампазітара Шумана.

**Андэрсен** валодаў цудоўным голасам і рыхтаваўся да кар'еры спевака і, калі б ён не страціў яго, свет пазбавіўся б знакамітага казачніка.

**Конан Дойл** засыпаў рэдакцыі часопісаў тоўстымі рукапісамі вельмі пасрэдных драм, якія яму вярталі, але аднойчы ён выпадкова ўлажыў у канверт дэтэктыўнае апавяданне, напісанае для ўласнага задавальнення.

Юнак **Сяргей Боткін** марыў вучыцца ў Маскоўскім універсітэце. Але ў канцы 40-х гадоў мінулага стагоддзя прыём на ўсе факультэты, акрамя медыцынскага, быў абмежаваны. Боткін махнуў рукою і пайшоў на медыцынскі.

... Калі б заўзятага тэатрала і акцёра-аматара **Гогаля** прынялі ў тэатр, куды ён імкнуўся...

-1356-

## ПАМІЖ НАМІ, ЖАНЧЫНАМІ

# Шалік? Шалік!

**Адна з прымет нашага часу — панаванне кантрастаў. Яны на кожным кроку, усюды і ва ўсім. І ў першую чаргу — у адзенні.**

Нядаўна прыяцелька пахвалілася новым паліто з моднага цяпер кашміру, а калега фарсіць у шыкоўнай абноўцы з натуральнай скуры на падшпільцы і з капюшонам, аблямаваным футрам нябачанага дагэтуль апосума. Суседка, дарэчы, жонка бізнесмена, апранула надзвычайнае норкавае манто. Але што з таго? Не трэба рабіць трагедыю, што асабіста вам ужо не адзін сезон запар прыходзіцца насіць крыху надаеўшую экіпіроўку. Тым больш што дзякуючы вашым намаганням паліто зусім нядрэнна захавалася. Самае разумнае — адносіцца да гэтай праблемы спакойна, па-філасофску.

Хай сёння вам не па кішэні ні норкавая, ні скураная, ні нават кашміравая абноўка, але сёе-тое вы ўсё ж можаце сабе дазволіць. Напрыклад, новы... шалік. І гэта, паверце, — не горшае выйсце з сітуацыі, якая камусьці можа здацца ледзь не катастрафічнай. У дадзеным выпадку менавіта шалік стане той самай выратавальнай «саломінкай», пры дапамозе якой вам удасца без асаблівых выдаткаў унесці жаданую навізну ў сваё зімовае аблічча.

Падабраны з густам, ён не толькі прыемна ажывіць не вельмі мажорную колеравую гаму вашага ўбрання, але і ўнясе прыкметную своеасаблівасць у сілуэт, выгадна зрушыць акцэнты. Шалік, асабліва доўгі, — дэталь незвычайна выразная і эфектная. Праўда, пры адной умове: калі вы ўмееце яго насіць. А для гэтага трэба патрэніравацца дома перад люстэркам. Магчыма, не адзін дзень. Паспрабуйце па-рознаму яго завязваць. Эксперыментуйце да таго часу, пакуль не знойдзеце прымальны варыянт.

Вы ўбачыце, што ўдала падабраны шалік здольны стварыць цуд: выгадна падкрэсліць колер вачэй, скуры твару, адценне валасоў і нават, уявіце сабе, узняць настрой. Цёплы, мяккі, пушысты, ён не толькі ўпрыгожыць, але і сагрэе ў мароз і сцюжу.

## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

# Галоўнае ўпрыгажэнне твару

**Жанчына можа запазычыць у мужчыны амаль усё: касцюм-тройку і лакіраваныя чаравікі, шлейкі і гальштук, яна можа курыць і карыстацца брытвай. Недаступна ёй толькі адно — адгадаваць бараду. Хаця б таму барада заслугоўвае любові і клопатаў.**

Барада — гэта не падстава не галіцца, гэта магчымасць выглядаць імпазантна. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя мужчыны былі проста абавязаны мець вусы або бараду — дазволіць сабе хадзіць з «голым» тварам маглі толькі людзі не вельмі паважаных прафесій: цыркачы і акцёры. І сёння барада зноў уваходзіць у фавор.

Выбіраючы сабе бараду, варта памятаць аб тым, што:

яна павінна адпавядаць даўжыні валасоў. З кароткай стрыжкай спалучаецца толькі маленькая бародка, чым даўжэйшыя вашы валасы, тым даўжэйшая будзе і барада;

пры дапамозе барады можна цудоўна абыграць недахопы вашага твару: калі твар доўгі і звужаецца да падбародка, то шырокая барада кампенсуе худзізну; на поўным твары будзе добра глядзецца мадэль, якую любіў яшчэ цар Мікалай II;

бараду неабходна мыць гэтак жа часта, як і галаву. Прытым не проста апалоскваць вадой, а прамываць шампунем. Але паколькі скура на твары больш пяшчотная, для догляду барады лепш падабраць больш мяккія сродкі, якія не раздражняюць скуру;

барада павінна не расплывацца бясформеннай плямай, а мець выразныя контуры, — толькі тады гэта будзе прыгожа.

-1357-

# КРЫЖАВАНКА




## «ВОСЕМ ЛІТАР»

1. Перапынак у навучальных занятках на некалькі дзён. **2**. Плоскі вертыкальны выступ на паверхні сцяны будынка. **3**. Дзейная адтуліна аптычнай сістэмы. **4**. Сельскагаспадарчая машына для рэзкі саломы на корм жывёле. **5**. Невялікая рака, левы прыток ракі Бесядзь. **6**. Вызваленне ад крымінальнай адказнасці або паслабленне яе. **7**. Духавы муштуковы музычны інструмент. **8**. Кіслароднае злучэнне. **9**. Выпуклы чатырохвугольнік. **10**. Возера ў Віцебскай вобласці. **11**. Наш зямляк, кавалер ордэнаў Славы трох ступеняў. **12**. Адметная на Беларусі асоба, арганізатар і першы кіраўнік калгаса «Рассвет» на Магілёўшчыне. **13**. Масавае народнае гулянне, свята. **14**. Марскі і рачны порт у нізоўях ракі Енісея. **15**. Навука пра аратарскае майстэрства. **16**. Невялікі порт на ўнутраных водных шляхах. **17**. Прылада для вымярэння колькасці абаротаў за пэўны час вала машыны або механізма. **18**. Горад у Гродзенскай вобласці. **19**. Агароднінная расліна сямейства капусты. **20**. Вельмі распаўсюджаны хімічны элемент, газ. **21**. Славуты рускі вучоны-прыродазнавец — заснавальнік навуковага глебазнаўства. **22**. Рыба сямейства селядцападобных. **23**. Беларуская спявачка, уладальніца вышэйшай узнагароды IX сусветнага фестывалю моладзі ў 1968 г. **24**. Вялікі горад у Індыі, у штаце Заходняя Бенгалія. **25**. Пасёлак гарадскога тыпу ў Драгічынскім раёне. **26**. Комплексная лячэбная ўстанова. **27**. Карэльскі і фінскі народны эпас. **28**. Лячэбная медыцынская працэдура. **29**. Гросмайстар, адзін з мацнейшых шахматыстаў СССР у 50-я — 70-я гады. **30**. Паскаральнік пратонаў, дэйтронаў. **31**. Прыстасаванне ў метро для рэгулявання патоку пасажыраў. **32**. Драўляная або мураваная дэкаратыўная пабудова для адпачынку ў парку, садзе. **33**. Паўднёвае дрэва, кустоўнік. **34**. Раствор для дублення скур. **35**. Горад у Нідэрландах. **36**. Абласны цэнтр ва Узбекістане. **37**. Класіфікацыя, устанаўленне ацэнкі ч.-н. **38**. Аўтаномны апарат для дыхання чалавека пад вадой. **39**. Беларускі савецкі вучоны ў галіне караблебудавання. **40**. Мэтавы набор прадметаў, рэчаў, напрыклад, мэблі, адзення і г. д. **41**. Канечны набор правілаў, аперацый рашэння задач адпаведнага класу. **42**. Комплекс медыка-санітарных мерапрыемстваў супраць распаўсюджвання хваробы. **43**. Нямецка-фашысцкі лагер масавага знішчэння людзей паблізу польскага горада Люблiна. **44**. Опера Д. Вердзі. **45**. Вялікая паўднёва-амерыканская змяя сямейства ўдаваў. **46**. Вядомы рускі жывапісец XIX ст., аўтар карціны «Невядомая». **47**. Запаленне слізістай абалонкі поласці рота. **48**. Від аддзелачнай будаўнічай работы ў будынку. **49**. Расліна, цела якой складаецца з супольнасці грыба і водарасці. **50**. Дзелавое пагадненне. **51**. Архітэктар, аўтар будынка акруговага Дома афіцэраў у Мінску. **52**. Сузор'е Задыяка. **53**. Беларускі народны жартоўны танец. **54**. Беларуская і ўкраінская оперная спявачка, драматычнае сапрана. **55**. Герой грамадзянскай вайны. **56**. Навука, якая вывучае форму і будову цела чалавека. **57**. Афрыканская птушка-драпежнік. **58**. Адбельная гліна. **59**. Расліна сямейства варсянкавых. **60**. Невялікая оперная арыя. **61**. Прадпрыемства грамадскага харчавання. **62**. Левы прыток Сожа ў Краснапольскім раёне. **63**. Харчовы прадукт раслінна-жывёльнага паходжання. **64**. Чалавек, які дэманструе прыкметы хваробы, на якую ён не пакутуе. **65**. Выраб з пшанічнага цеста, масавы харчовы прадукт. **66**. Драўляная прылада для прадзіва лёну або воўны. **67**. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. **68**. Беларускі пісьменнік-палеміст і рэлігійны дзеяч. **69**. Горад, цэнтр нацыянальнай аўтаноміі ў Пермскай вобласці Расійскай Федэрацыі. **70**. Пісьменнік, аўтар рамана «Выпрабаванне». **71**. Рускі савецкі пісьменнік, аўтар аповесці «Не дзеля славы». **72**. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Баранавічы. **73**. Адна з дэкартавых каардынат пунктаў прасторы. **74**. Метад даследавання хворага праступкваннем. **75**. Ваганні Месяца вакол яго цэнтра. **76**. Прамысловы цэнтр у Данецкай вобласці Украіны. **77**. Духавы трысцінкавы музычны інструмент. **78**. Літаратурна-мастацкі часопіс, які ўбачыў свет у **1935** г. у Вільні. **79**. Штат у ЗША. **80**. Камісар партызанскай брыгады на Віцебшчыне ў часы Вялікай Айчыннай вайны. **81**. Герой Савецкага Саюза, імем якога названа вуліца ў Віцебску. **82**. Возера ў Лепельскім раёне. **83**. Беларускі жывапісец, адзін з аўтараў дыярамы «Мінскі кацёл». **84**. Драма М. Лермантава. **85**. Пчаліная смала, воскавы клей. **86**. Апавяданне А. Чэхава. **87**. Каштоўны выкапень, вокіс алюмінія. **88**. Герой Савецкага Саюза, удзельнік баёў на Беларусі. **89**. Славутая трактарыстка, арганізатар і брыгадзір першай у СССР жаночай трактарнай брыгады. **90**. Фіранка з лёгкай, празрыстай тканіны. **91**. Папулярны інфармацыйны газетна-часопісны жанр. **92**. Буйны землеўладальнік у Расіі XV—XX ст. **93**. Састаўная частка крыві некаторых беспазваночных жывёл. **94**. Маятнік у гадзіннікавым механізме. **95**. Жончына сястра. **96**. Класічны мнагаграннік. **97**. Адзінка масы ў міжнароднай сістэме адзінак. **98**. Рускі жывапісец XIX ст., аўтар вядомага палатна «Гракі прыляцелі».

Адказы трэба запісваць у клеткі крыжаванкі вакол лікаў, пазначаных рыскай, па ходу стрэлкі гадзінніка.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка «К» (31 студзеня). Па гарызанталях:** 5. Кварц. 6. Кагат. 9. Карат. 11. Карэта. 12. Кампот. 15. Кіёк. 17. Капітан. 18. Клас. 19. Ксілол. 20. Калода. 24. Каса. 25. Кінавар. 26. Клік. 29. Класік. 30. Кардон. 31. Карак. 33. Канва. 34. Крыга. **По вертыкалях: 1**. Квінта. 2. Крок. 3. Карт. 4. Калгас. 7. Крызіс. 8. Касір. 10. Колас. 13. Карозія. 14. Кабатаж. 16. Каска. 18. Кадык. 21. Каслі. 22. Камера. 23. Кідок. 27. Кішлак. 28. Калега. 31. Кава. 32. Карп. Як, мусіць, заўважылі нашы чытачы, усе словы ў гэтай крыжаванцы пачынаюцца на літару «К».

**Чайнворд «С» (31 студзеня).** Усе словы ў ім пачынаюцца і заканчваюцца на літару «С». 1. Сэнс. 2. Сінус. 3. Сурус. 4. Самос. 5. Сервіс. 6. Сервантэс. 7. Суфікс. 8. Сенакос. 9. Савіцкас. 10. Солтыс. 11. «Свінапас». 12. Серапіс. 13. Слуцкіс. 14. Салдус. 15. Сеанс. 16. Сфінкс. 17. Сібеліус. 18. Скорапіс. 19. Сірыус. 20. Солюкс. 21. Страус. 22. Станс. 23. Сантас. 24. Сінтаксіс. 25. Скепсіс. 26. Себрыс. 27. Сляс. 28. Стос. 29. Сілас.

**Галаваломка (31 студзеня).** Назвы рэк і азёр: Нарач, Вілія, Снуды, Гарынь, Прыпяць, Ясельда, Свіслач, Мухавец, Бярэзіна, Славечна, Асвейскае. Назвы рыб: шчупак, карась, плотка, мянтуз, вугор, сазан, акунь, судак, карп, лешч, сом.

**Крыптаграма (31 студзеня).** Ключавыя словы ў ёй: Ціса, забой, джыга, малахіт. Зашыфраваныя словы народнай мудрасці: «Багаты той, хто можа абыходзіцца самым малым».

***УСЁ ПРА ЎСЁ***

## ШЛЁПАНЦЫ З ФАРАМІ

Людзі нярэдка ўстаюць уначы і ходзяць па кватэры: п'юць ваду, наведваюць туалет, капаюцца ў халадзільніку. Калі запаліць святло, разбудзіш дамачадцаў. Менавіта для такіх выпадкаў амерыканская фірма «Найт-Мейс» выпусціла хатнія шлёпанцы з устроенымі крыптонавымі лямпачкамі, святло ад якіх на семдзесят працэнтаў мацней чым у звычайных. Гэтыя лямпачкі выпускаюць шырокую паласу святла, як фары на аўтамабілях. На пятцы шлёпанцаў размешчана кнопка, якая ўключае лямпачку націскам нагі. Каштуе навінка 30 долараў.

## А ЯНЫ ЎСЁ Ж АДНАЎЛЯЮЦЦА!

Да гэтага часу лічылася, што клеткі мозгу не аднаўляюцца. Чаму ж тады многія людзі да старасці ўсё-такі ўхітраюцца зберагчы ясны розум і цвёрдую памяць?

Па-першае, прырода сканструявала чалавечы мозг з грунтоўным запасам. Нават пры самай інтэнсіўнай разумовай рабоце выкарыстоўваецца толькі трэцяя частка яго «магутнасці». Акрамя таго, колькасць нервовых сувязяў паміж асобнымі клеткамі мозгу настолькі вялікая, што пры страце адной або некалькіх клетак сувязі перабудоўваюцца так, каб падключыць да работы рэзерв або абысціся тымі, якія ёсць.

Па-другое, як даказалі нядаўна канадскія нейрабіёлагі — прафесар Самуэль Вайс і яго аспірант Брэд Рэйнальдс, — нервовыя клеткі ўсё-такі аднаўляюцца. Гэта значыць новыя нейроны мозгу ўтвараюцца прыкладна так, як клеткі скуры, крыві і г. д.

Праўда, клеткі, якія выпрацоўваюць новыя нейроны, удалося выявіць пакуль толькі ў доследах з мышамі. Але прафесар упэўнены, што з часам і ў чалавечым мозгу будуць знойдзены такія ж, паколькі многія працэсы ў арганізме мышэй і людзей праходзяць аднолькава.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

## *ВІНШАВАННІ*



*Звяздоўцы шчыра віншуюць з юбілеем былую супрацоўніцу* ***Ніну Іванаўну КАЗАРМШЧЫКАВУ****. Доўгіх Вам гадоў жыцця, Ніна Іванаўна, моцнага здароўя і бадзёрасці!*

*Любую, дарагую мамачку* ***Лідзію Міхайлаўну АСІПОВІЧ*** *віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і дабрабыту.*

**Дзеці,**
в. Варонча Карэліцкага р-на.

*Дарагая дачушка* ***Лідзія Анатольеўна ТРУБАЧ.*** *Сардэчна віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця, дабра і доўгіх гадоў жыцця, усмешак, пяшчоты і цяпла.*

**Бацькі, брат,** в. Зябкі.

*Шчыра віншуем дарагога мужа і бацьку* ***Уладзіміра Віктаравіча ПУМПУРА*** *з в. Вішнева Смаргонскага раёна з 50-гадовым юбілеем. Жадаем здароўя, дабрабыту, поспехаў у працы, доўгага веку.*

**Жонка, сыны.**

## СТАЛІЧНАЯ АФІША

■ *У суботу, 7 лютага*, у **Рускім драматычным тэатры імя М. Горкага** — «Свабодны шлюб» (спектакль у 2-х частках па п'есе вядомых італьянскіх драматургаў Д. Фо і Ф. Рамэ). Пачатак у 19.00. На Малой сцэне — «Перпетуум мобіле, або Вечар яўрэйскага анекдота» (18.30). 8 лютага ў 11.00 — Л. Осіпаў. «Жылі-былі дурні» (казка-буф), у 19 гадзін — Я. Купала. «Раскіданае гняздо».

■ **У тэатры оперы і балета** *ў суботу* — П. Чайкоўскі. «Іаланта», *у нядзелю* — вечар рамансаў.

■ **У тэатры беларускай драматургіі «Вольная сцэна»** 7 лютага — А. Чэхаў. «Шампань-скага!», *8 лютага* — Ж.-Б. Мальер. «Лекар паняволі» (камедыя).

■ **У Тэатры лялек** у суботу: А. Талстой. «Прыгоды Бураціна ў краіне дурняў». У спектаклі ўдзельнічаюць лялькі-марыянеткі.

■ **Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы** *ў нядзелю* прадстаўляе спектакль «Касцюмер» па п'есе Р. Харвуда.

■ **Беларускі дзяржаўны цырк** запрашае на новае інтэршоу «Усё могуць каралі» з удзелам атракцыёна «На сланах вакол свету». У праграме: жанглёры, ілюзіяністы, гімнасты, эквілібрысты, клоуны і іншыя нумары. Пачатак у 11.30, 15.00, 19.00.

■ **У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь** *у суботу* прэм'ера: «М. Самойлаў. «Дарагая Памела» (мюзікл у 2-х дзеях). Пачатак у 19 гадзін.

■ **У Доме афіцэраў** 8 лютага выступае Юрый Лаза з лепшымі новымі і старымі песнямі. Пачатак у 18 гадзін.

■ У тэатральнай зале **Палаца культуры прафсаюзаў** працягваецца рэтраспектыва французскіх фільмаў студыі «Gaumont», прысвечаная 100-гадоваму юбілею кампаніі.

■ Тут жа санкт-пецярбургскі музей васковых фігур прадстаўляе сваю славутую серыю «Катастрофы чалавечага цела», якая працягвае лепшыя традыцыі сусветна вядомай «Кунсткамеры» Пятра I у Санкт-Пецярбургу.

■ **У Палацы мастацтваў** адкрылася персанальная выстава жывапісу народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва, прысвечаная 75-годдзю мастака.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара). І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.helpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 618.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12